№ 71 (4118)

13 верасня 2016 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

Народная Воля

ДЭМАКРАТЫЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

# Парламенцкія выбары:

## волевыяўленне народа ці палітычны фарс улад?



МАНІТОРЫНГ

## Незалежныя назіральнікі незадаволены выбарамі

*Аб'яўленыя афіцыйныя вынікі выбараў у Палату прадстаўнікоў не адпавядаюць рэальнаму волевыяўленню выбаршчыкаў, заявіў учора на прэс-канферэнцыі адзін з каардынатараў кампаніі **«За справядлівыя выбары» Сяргей Калякін.***

Паводле яго слоў, сур'ёзная колькасць парушэнняў на ўсіх этапах выбарчай кампаніі сведчыць пра тое, што парламенцкія выбары, якія прайшлі 11 верасня, не адпавядаюць нацыянальнаму заканадаўству і міжнародным абавязацельствам Беларусі, паведамляе euroradio.fm.

Яшчэ адзін каардынатар **Валерый Ухналёў** заявіў, што ў дзейнасці мясцовых органаў улады *«адсутнічала празрыстасць, аб'ектыўнасць, здзяйснялася жорсткая дыскрымінацыя ў адносінах да прадстаўнікоў, вылучаных апазіцыйнымі палітычнымі партыямі»*. Агітацыйны перыяд прайшоў *"ва ўмовах цэнзуры"*. Падчас датэрміновага галасавання назіральнікі зафіксавалі *"шматлікія факты завышэння выбарчымі камісіямі фактычнай колькасці выбаршчыкаў, якія прагаласавалі"*. Гэта адбывалася і ў асноўны дзень галасавання.

Кампанія **«Права выбару»** таксама заявіла, што не прызнае парламенцкія выбары ў Беларусі сумленнымі і дэмакратычнымі. Яе каардынатар **Дзяніс Садоўскі** адзначыў, што *«грубыя парушэнні»* былі зафіксаваны *"ва ўсіх акругах»*.

КРОПКІ НАД "І"

## Не дзеля зарплаты...

Выбары прайшлі, а інтрыга засталася: Аб'яднаная грамадзянская партыя, напрыклад, вырашае, што рабіць з дэпутацкім мандатам Ганны Канапацкай, якая перамагла ў Мінску па 97-й выбарчай акрузе: пакінуць яе ў складзе парламента альбо не? Рашэнне будзе агучана сёння.

А ўчора Ганна Канапацкая зрабіла сабе дзень цішыні: выключыла ўсе тэлефоны і з'ехала на прыроду. Таму, каб унесці яснасць у сітуацыю, мы звярнуліся да старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоля ЛЯБЕДЗЬКІ.

**– Анатоль Уладзіміравіч, чаму ўвогуле ўзнікла такое пытанне? Упершыню ж прадстаўнік апазіцыйнай партыі трапіў у парламент – ці не гэтага вы дамагаліся?**

– Справа ў тым, што мы арганізацыя дэмакратычная, і ў некаторых нашых сябраў ёсць такі падыход, што трэба ад мандата адмаўляцца. Гэта звязана з тым, што на вялікай колькасці ўчасткаў людзі назіралі ўсё тыя ж нахабнасць, нізасць, якія адбываліся падчас галасавання.

Мы арганізавалі ў сябе дыскусію, і мяркую, што знойдзем правільнае, разумнае рашэнне, якое не толькі будзе сыходзіць з нейкіх нашых амбіцый, але ад якога будзе карысць для прыхільнікаў перамен. Бо зараз пытанне не толькі пра нашы ўнутраныя эмоцыі, але і пра тое, як прадстаўніцтва ў парламенце нашай актывісткі можа быць выкарыстана для краіны, для перамен.

**– А ваша асабістая пазіцыя якая?**

– Мы ведаем, якая можа быць "палатка" без нашай апазіцыйнай прысутнасці – назіраем гэта 20 гадоў. А вось парламент з новымі элементамі – гэтага яшчэ не было. Магчыма, нейкая рызыка ёсць, але мне падаецца, мець альтэрнатыўных дэпутатаў у парламенце з шэрагу апазіцыйных і дэмакратычных структур – важка і больш плённа для ўсіх нас.

**– А як да усёй гэтай сітуацыі ставіцца сама Ганна?**

– Я думаю, яна ўсё адэкватна ўспрымае і разумее, што адзін чалавек нават з самымі незвычайнымі здольнасцямі не шмат што можа зрабіць. Але калі за тваімі плячыма прафесійная каманда, партыйная структура, тады можна ставіць больш амбіцыйныя мэты і задачы. У Ганны такое ўяўленне ёсць. Сёння яна кажа: "Я частка прафесійнай каманды".

**– А што скажаце наконт абвінавачанняў, маўляў, без дапамогі ўлад не абышлося, Канапацкую правялі ў парламент, каб прадэманстраваць Захаду дэмакратычныя перамены і не прапусціць у парламент канкурэнтку Ганны па дадзенай акрузе – лідара "Гавары праўду!" Таццяну Караткевіч?**

– Мы не наіўныя і разумеем, што ўлада кантралявала сітуацыю на ўсіх стадыях выбараў. Якая матывацыя ва ўлады – гэта іншая размова. Але я ведаю адно: Канапацкая са сваёй камандай адпрацавалі ад першага і да апошняга дня. У іх была прадуктыўная кампанія, я быў на яе пікетах і бачыў, як людзі станоўча рэагавалі на Ганну. Яна з самага пачатку пазіцыянавала сябе як прадстаўнік апазіцыйнай партыі, ішла на выбары з праграмай "Мільён працоўных месцаў" як альтэрнатывай дзеючаму эканамічнаму курсу. Напрыклад, калі Таццяна Караткевіч казала, што ў краіне ўсё ідзе на паляпшэнне, што ёсць нейкія крокі наперад, то Ганна ясна і прынцыпова заяўляла, што краіна прагне перамен. Яна добра і прафесійна трымалася падчас дэбатаў. І я ўпэўнены, што пры чэсным падліку галасоў шанец перамагчы ў Ганны Канапацкай быў вельмі высокі.

**– Пагадзіцеся, што пра палітыка Ганну Канапацкую наўрад ці шмат вядома. Яна даўні сябра АГП?**

– Так. Яна была на ўстаноўчым сходзе АГП, калі наша партыя толькі стваралася. Тады Ганна была маладой дзяўчынай, ёй толькі споўнілася 19 гадоў. У мінулую парламенцкую кампанію, у 2012 годзе, Ганна Канапацкая таксама балатавалася ў парламент, але ў рамках стратэгіі, абранай партыяй, яна, як і ўсе сябры АГП, у апошні момант знялася з выбараў, і яе прозвішча не было ў бюлетэнях.

Ганна – добра адукаваны чалавек, мае добрую юрыдычную практыку, ведае некалькі моў, як прадпрымальнік самадастатковая, і пры гэтым ніколі не цуралася займаць прынцыповую пазіцыю: калі яе трэба было прадэманстраваць на вуліцы ў пікеце, яна гэта рабіла. Ганна прыцягвалася да адміністрацыйнай адказнасці за ўдзел у пікеце, які ладзіўся ў падтрымку палітвязняў.

Доўгі час Ганна Канапацкая ачольвала мінскую арганізацыю АГП, у мінулым годзе яе змяніў на гэтай пасадзе Мікалай Казлоў. Яна застаецца сябрам Нацыянальнага камітэта Аб'яднанай грамадзянскай партыі.

Што важна: Ганна ішла ў Палату прадстаўнікоў не дзеля зарплаты. Яна паспяховы прадпрымальнік, за мінулы год, як было пазначана ў яе дэкларацыі, зарабіла амаль 300 мільёнаў недэнамінаваных рублёў. Ганна ведае, на што ёй дэпутацтва. Але ў любым выпадку мы нясём за яе адказнасць, бо яе вылучала кандыдатам на выбары Аб'яднаная грамадзянская партыя. Мы гатовы ёй дапамагчы, і нам ёсць што ёй прапанаваць. Мы можам фарміраваць актуальны парадак дня для краіны, для ўлады, для прыхільнікаў перамен.



**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ТЫМ ЧАСАМ

## «Павінна ўзяць гэты мандат і працаваць»

Таццяна Караткевіч асабіста не павіншавала Ганну Канапацкую з перамогай, але на прэс-канферэнцыі, якую ўчора правялі лідары "Гавары праўду!" па выніках парламенцкай кампаніі, адзначыла:

*– З'явіліся новыя палітыкі, у тым ліку і Аня Канапацкая, якая перамагла. І я кажу ёй: «Аня, ты павінна ўзяць гэты мандат і працаваць. Калі патрэбна, я гатова табе дапамагаць".*

ПРАТЭСТ

## На акцыю Някляева і Статкевіча прыйшлі некалькі сот чалавек

*Палітыкі заклікалі беларусаў дамагацца правядзення сапраўдных выбараў і для гэтага прапанавалі сабрацца 12 верасня на Кастрычніцкай плошчы сталіцы.*

У 18.00 (вызначаны час збору) на плошчы было ўсяго некалькі дзясяткаў чалавек, хаця паступова людзі падыходзілі. Праўда, добрую частку прысутных складалі журналісты, сілавікі ў цывільным і міжнародныя назіральнікі.

А вось апазіцыйныя палітыкі былі практычна ў поўным складзе – **Уладзімір Някляеў, Мікалай Статкевіч, Павел Севярынец, Віталь Рымашэўскі, Анатоль Лябедзька, Алесь Лагвінец**...

Практычна ўсе яны казалі пра "чарговы фарс і падман народа", а Мікалай Статкевіч абвясціў, што гэтая акцыя не апошняя.

Пасля гэтага прысутныя прайшлі шэсцем да Цэнтрвыбаркама...

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**




## 4 са 110

Напярэдадні парламенцкіх выбараў у інтэрнэт трапіў спіс прозвішчаў асоб (яго апублікавала "Наша Ніва"), якія быццам па загадзе "Чырвонага дома", абавязкова павінны стаць дэпутатамі Палаты прадстаўнікоў. Як ні дзіўна, але толькі чатыры са 110 агучаных фігурантаў не трапілі ў парламент.

Наколькі дэмакратычныя былі выбары – рабіце высновы, шаноўныя чытачы, самі.

ПАПЯРЭДНІ ПРАГНОЗ

| Акруга | Імя | Пасада | Ці стаў дэпутатам? |
|---|---|---|---|
| 1 | Брыч Леанід Рыгоравіч | Генеральны дырэктар ААТ «Берасцейскі пекар» стаў | Стаў |
| 2 | Мілашэўскі Валянцін Станіслававіч | Дэпутат Палаты прадстаўнікоў | Стаў |
| 3 | Дашко Анатоль Міхайлавіч | Галоўны ўрач Брэсцкага абласнога раддома | Стаў |
| 4 | Базанаў Уладзімір Аляксандравіч | Дэпутат Палаты прадстаўнікоў | Стаў |
| 5 | Палітыка Вольга Сяргееўна | Дэпутат Палаты прадстаўнікоў | Стала |
| 6 | Якубовіч Таццяна Раманаўна | Першы прарэктар Баранавіцкага дзяржаўнага ўніверсітэта | Стала |
| 7 | Цупрык Леанід Аляксандравіч | Намеснік старшыні Брэсцкага аблвыканкама | Стаў |
| 8 | Стаціўка Жанна Уладзіміраўна | Намеснік старшыні камітэта па працы, занятасці і сацыяльнай абароне Брэсцкага аблвыканкама | Стаў |
| 9 | Качына Леанід Іванавіч | Галоўны інжынер ААТ «Бярозаўскі сыраробны камбінат» | Стаў |
| 10 | Дарагакупец Юрый Іванавіч | Дэпутат Палаты прадстаўнікоў | Стаў |
| 11 | Ткачук Анатоль Уладзіміравіч | Старшыня Івацэвіцкага райвыканкама | Стаў |
| 12 | Дземідовіч Васіль Мікалаевіч | Дырэктар Кобрынскага дзяржаўнага політэхнічнага каледжа | Стаў |
| 13 | Невар Ігар Леанідавіч | Галоўны доктар Лунінецкай цэнтральнай раённай бальніцы | Стаў |
| 14 | Колб Ігар Міхайлавіч | Дырэктар Гімназіі №3 Пінска | Стаў |
| 15 | Рабкавец Іван Рыгоравіч | Дырэктар Пінскага аўтобуснага парку | Стаў |
| 16 | Бабаловіч Аляксандр Сяргеевіч | Начальнік КУП «Брэстаблдарбуд» філіял «Столінскага ДРБУ-141» | Стаў |
| 17 | Старынская Таццяна Аляксандраўна | Дырэктар Тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва Першамайскага раёна Віцебска | Стаў |
| 18 | Занько Сяргей Мікалаевіч | Загадчык кафедры акушэрства і гінекалогіі Віцебскага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта | Стаў |
| 19 | Чакан Васіль Іванавіч | Начальнік Дэпартамента па матэрыяльных рэзервах Міністэрства па надзвычайных сітуацыях | Стаў |
| 20 | Цацоха Аляксандр Уладзіміравіч | Дэпутат Палаты прадстаўнікоў | Стаў |
| 21 | Міраш Віктар Вікенцьевіч | Першы намеснік дырэктара ААТ «Віцебская бройлерная птушкафабрыка» | Стаў |
| 22 | Андрэйчанка Уладзімір Паўлавіч | Старшыня Палаты прадстаўнікоў | Стаў |
| 23 | Мартынаў Ігар Феліксавіч | Ваенны камісар Віцебскай вобласці | Стаў |
| 24 | Дзевятоўскі Вадзім Анатольевіч | Дэпутат Палаты прадстаўнікоў | Стаў |
| 25 | Дабрыніна Людміла Анатольеўна | Дэпутат Палаты прадстаўнікоў | Стала |
| 26 | Чудовіч Віталь Ігаравіч | Начальнік лакаматыўнага дэпо Оршы | Стаў |
| 27 | Гуйвік Наталля Васільеўна | Дэпутат Палаты прадстаўнікоў | Стала |
| 28 | Юніцын Андрэй Юр'евіч | Начальнік Полацкага занальнага вузла электрасувязі Віцебскага філіяла РУП «Белтэлеком» | Стаў |
| 29 | Зямчонак Сяргей Рычардавіч | Дырэктар ААТ «Паставымэбля» | Стаў |
| 30 | Лукашоў Анатоль Іванавіч | Старшыня Дубровенскага райвыканкама | Стаў |
| 31 | Корж Іван Аляксеевіч | Начальнік Інстытута нацыянальнай бяспекі | Стаў |
| 32 | Шылаў Віталь Пятровіч | Намеснік дырэктара ААТ «Гомельскі ЗЛіН» | Стаў |
| 33 | Леўшуноў Алег Фёдаравіч | Дэпутат Палаты прадстаўнікоў | Стаў |
| 34 | Ждановіч Павел Леанідавіч | Дырэктар Гомельскага абласнога музея ваеннай славы | Стаў |
| 35 | Гурскі Дзмітрый Міхайлавіч | Намеснік гендырэктара – дырэктар завода ККД ААТ «Гомельскі домабудаўнічы камбінат» | Стаў |
| 36 | Астапюк Алена Іванаўна | Дэпутат Палаты прадстаўнікоў | Стала |
| 37 | Навумчык Ала Аляксандраўна | Дэпутат Палаты прадстаўнікоў | Стала |
| 38 | Васількоў Мікалай Андрэевіч | Начальнік упраўлення аховы здароўя Гомельскага аблвыканкама | Стаў |
| 39 | Кралевіч Ірына Мікалаеўна | Прарэктар па навуковай рабоце Мазырскага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта | Стала |
| 40 | Дзячэнка Вячаслаў Іванавіч | Галоўны спецыяліст Беларускага металургічнага завода | Стаў |
| 41 | Адаменка Яўген Буніслававіч | Старшыня Мазырскага райвыканкама | Стаў |
| 42 | Расоха Мікалай Фёдаравіч | Дэпутат Палаты прадстаўнікоў | Стаў |
| 43 | Пісанік Леанід Фёдаравіч | Старшыня Ельскага райвыканкама | Стаў |
| 44 | Пірштук Баляслаў Казіміравіч | Намеснік старшыні Гомельскага аблвыканкама | Стаў |
| 45 | Шчэпаў Уладзіслаў Аляксандравіч | Дэпутат Палаты прадстаўнікоў | Стаў |
| 46 | Філіповіч Галіна Васільеўна | Дэпутат Палаты прадстаўнікоў | Стала |
| 47 | Чакан Святлана Уладзіславаўна | Дэпутат Палаты прадстаўнікоў | Стала |
| 48 | Сягоднік Аляксандр Іванавіч | Дэпутат Палаты прадстаўнікоў | Стаў |
| 49 | Пацэвіч Сяргей Лявонцьевіч | Начальнік галоўнага ўпраўлення арганізацыйна-кадравай работы Гродзенскага аблвыканкама | Стаў |
| 50 | Русак Віктар Рамуальдавіч | Начальнік аддзела сацыяльнага развіцця ААТ «Гродна Азот» | Стаў |
| 51 | Кір'як Лілія Вацлаваўна | Дырэктар школы №13 Гродна | Стала |
| 52 | Даўгашэй Тамара Сяргееўна | Галоўны ўрач Гродзенскага абласнога клінічнага кардыялагічнага цэнтра | Стала |
| 53 | Літвін Сяргей Іванавіч | Дырэктар Скідальскага дзяржаўнага сельскагаспадарчага прафесійнага ліцэя | Стаў |
| 54 | Маркевіч Аляксандр Іванавіч | Начальнік Смаргонскай памежнай групы | Стаў |
| 55 | Навумовіч Андрэй Мікалаевіч | Дэпутат Палаты прадстаўнікоў | Стаў |
| 56 | Міхневіч Валянцін Уладзіміравіч | Першы намеснік міністра ўнутраных спраў – начальнік крымінальнай міліцыі | Стаў |
| 57 | Папко Вольга Мікалаеўна | Дырэктар музея «Замкавы комплекс «Мір» | Стала |
| 58 | Сопікава Ала Мікалаеўна | Дэпутат Палаты прадстаўнікоў | Стала |
| 59 | Кавалько Адам Дзмітрыевіч | Старшыня Астравецкага райвыканкама | Стаў |
| 60 | Саўко Валерый Іосіфавіч | Старшыня Гродзенскай абласной арганізацыі прафсаюза работнікаў дзяржаўных і іншых устаноў | Стаў |
| 61 | Атрошчанка Пятро Аляксеевіч | Намеснік начальніка Упраўлення КДБ па Мінску і Мінскай вобласці | Стаў |
| 62 | Бараннік Васіль Міхайлавіч | Дырэктар КП «Горадабудаўнік», Барысаў | Стаў |
| 63 | Красоўская Тамара Пятроўна | Дэпутат Палаты прадстаўнікоў | Стала |
| 64 | Заблоцкі Дзмітрый Васільевіч | Намеснік генеральнага дырэктара па якасці і стандартызацыі вытворчасці БелАЗ | Стаў |
| 65 | Гайдукевіч Валерый Уладзіміравіч | Дэпутат Палаты прадстаўнікоў | Стаў |
| 66 | Ніжэвіч Людміла Іванаўна | Намеснік міністра сельскай гаспадаркі і харчавання | Стала |
| 67 | Ражанец Валянціна Вітальеўна | Галоўны рэдактар газеты «Слуцкі край» і радыё «Весткі Случчыны» | Стала |
| 68 | Рыбак Андрэй Анатольевіч | Намеснік генеральнага дырэктара ААТ «Беларуськалій» | Стаў |
| 69 | Мурына Юлія Георгіеўна | Дырэктар Салігорскага раённага тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва | Стала |
| 70 | Анісім Алена Мікалаеўна | Намесніца старшыні Таварыства беларускай мовы | Стала |
| 71 | Лобач Юрый Аляксандравіч | Генеральны дырэктар ААТ «Дарбудіндустрыя» | Стаў |
| 72 | Канановіч Людміла Мікалаеўна | Намеснік старшыні Маладзечанскага райвыканкама | Стала |
| 73 | Маркевіч Іван Станіслававіч | Кіраўнік спраў Мінскага аблвыканкама | Стаў |
| 74 | Жыбуль Наталля Пятроўна | Дырэктар Вілейскай гімназіі №1 «Логас» | Стала |
| 75 | Вабішчэвіч Пётр Андрэевіч | Старшыня Лагойскага раённага Савета дэпутатаў | Стаў |
| 76 | Улаховіч Мікалай Дзмітрыевіч | Намеснік старшыні Мінаблспажыўсаюза | Стаў |
| 77 | Курсевіч Валянціна Вацлаваўна | Урач-кардыёлаг, загадчык кардыялагічнага аддзялення 2-й гарадской клінічнай бальніцы Мінска | Стала |
| 78 | Рынейская Ірына Мікалаеўна | Начальнік упраўлення адукацыі, спорту і турызму Бабруйскага гарвыканкама | Стала |
| 79 | Уласевіч Віталь Эдуардавіч | Начальнік зборачнага цэха №2 завода масавых шын ААТ «Белшына» | Стаў |
| 80 | Кананчук Ігар Паўлавіч | Дырэктар ААТ «Бабулін глечык» | Стаў |
| 81 | Кананчук Таццяна Пятроўна | Дэпутат Палаты прадстаўнікоў | Стала |
| 82 | Колеснева Алена Пятроўна | Прарэктар па вучэбнай рабоце Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі | Стала |
| 83 | Марачкава Таццяна Барысаўна | Старшыня Крычаўскага раённага Савета дэпутатаў | Стала |
| 84 | Марзалюк Ігар Аляксандравіч | Загадчык кафедры археалогіі Магілёўскага дзяржаўнага ўніверсітэта | Стаў |
| 85 | Старавойтаў Аляксандр Генадзевіч | Галоўны ўрач Магілёўскай цэнтральнай паліклінікі | Стаў |
| 86 | Петрашова Вольга Уладзіміраўна | Намеснік старшыні Магілёўскага аб'яднання прафсаюзаў | Стала |
| 87 | Салаўёў Пётр Аляксандравіч | Галоўны інжынер ААТ «Магілёўхімвалакно» | Стаў |
| 88 | Хішчанка Анатоль Пятровіч | Намеснік старшыні Ліберальна-дэмакратычнай партыі | Стаў |
| 89 | Калтуноў Мікалай Анісімавіч | Дэпутат Палаты прадстаўнікоў | Не стаў |
| 90 | Гобараў Дзмітрый Дзмітрыевіч | Памочнік прэзідэнта – галоўны інспектар па Брэсцкай вобласці | Стаў |
| 91 | Няхайчык Аксана Уладзіміраўна | Дэпутат Палаты прадстаўнікоў | Стала |
| 92 | Курсевіч Валерый Віктаравіч | Дырэктар рысорнага завода ААТ «МАЗ» | Стаў |
| 93 | Барадзеня Валерый Анатольевіч | Дэпутат Палаты прадстаўнікоў | Стаў |
| 94 | Варанецкі Валерый Іосіфавіч | Пасол у Аўстрыі | Стаў |
| 95 | Сайганава Таццяна Іванаўна | Намеснік генеральнага дырэктара ААТ «Кандытарская фабрыка «Камунарка» | Стала |
| 96 | Клімовіч Наталля Анатольеўна | Дэпутат Палаты прадстаўнікоў | Стала |
| 97 | Дрожжа Аляксандр Сяргеевіч | Начальнік станцыі «Мінск-Пасажырскі» | Не стаў |
| 98 | Камароўскі Ігар Сяргеевіч | Дырэктар ААТ «Мінскі вагонарамонтны завод» | Стаў |
| 99 | Макарына-Кібак Людміла Эдуардаўна | Галоўны ўрач РНПЦ отарыналарынгалогіі | Стала |
| 100 | Гайдук Аксана Вячаславаўна | Намеснік генеральнага дырэктара ДВА «Гаррамаўтадар Мінгарвыканкама» | Стала |
| 101 | Старавойтава Ганна Валянцінаўна | Дырэктар гімназіі №31 Мінска | Стала |
| 102 | Кубракова Людміла Пятроўна | Дэпутат Палаты прадстаўнікоў | Стала |
| 103 | Місявец Віталь Рыгоравіч | Старшыня Фрунзенскай раённай арганізацыі РГА «Белая Русь» | Стаў |
| 104 | Мілаванаў Міхаіл Вячаслававіч | Намеснік дырэктара Музея гісторыі Мінска | Стаў |
| 105 | Дарафеева Ірына Аркадзьеўна | Загадчык кафедры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў | Стала |
| 106 | Шаўцоў Дзмітрый Яўгенавіч | Дэпутат Палаты прадстаўнікоў | Стаў |
| 107 | Сокал Аляксей Уладзіміравіч | Першы намеснік генеральнага дырэктара ААТ «ЦУМ» | Стаў |
| 108 | Лакіза Вадзім Леанідавіч | Намеснік дырэктара Інстытута гісторыі Акадэміі навук | Не стаў |
| 109 | Бобрыкаў Сяргей Валянцінавіч | Начальнік Вайсковай акадэміі | Стаў |
| 110 | Захарава Лада Іванаўна | Дырэктар гімназіі №5 Мінска | Не стала |

## Хто яны, вязунчыкі?

Замест прагназуемай па 110-й акрузе Лады Захаравай, дырэктара гімназіі №5 Мінска, дэпутатам стала Вольга Мычко, галоўны ўрач бальніцы паліатыўнага догляду "Хоспіс".

У 108-й акрузе Мінска дэпутатам Палаты прадстаўнікоў стаў Максім Місько, старшыня праўлення Беларускага фонду міру.

Ганна Канапацкая, дырэктар ААТ "Грынгрэй", сябра Аб'яднанай грамадзянскай партыі, стала дэпутатам Палаты прадстаўнікоў па сталічнай акрузе №97.

У Асіповічах, калі верыць афіцыёзу, па акрузе №89 большасць галасоў атрымаў Аляксандр Багдановіч, трэнер спартыўнай каманды ўнутраных войскаў МВД.

Народная Воля
http://www.nv-online.info
13 ВЕРАСНЯ 2016 г.

ЗОРНЫ ГОСЦЬ

## Дар'я НАВУМАВА: «У вёсцы пасля Алімпіяды было маленькае «вяселле»



*Сярэбраны прызёр Гульняў-2016 распавяла "Народнай Волі" пра сям'ю, радасць блізкіх пасля перамогі і свой удзел ва Усебеларускім народным сходзе.*

Серабро цяжкаатлеткі Дар'і Навумавай было каштоўным удвая. Менавіта яна заваявала для зборнай Беларусі першы медаль на 7-ы дзень Алімпійскіх гульняў.

**– Даша, калі пашукаць інфармацыю ў інтэрнэце, то некаторыя крыніцы пішуць, што вы нарадзіліся ў Бабруйску. Але ж гэта не так…**

– Магчыма, таму так пішуць, што мама і насамрэч нарадзіла мяне ў радзільным доме Бабруйска, хаця сама я родам з вёскі Патока Клічаўскага раёна. Так і ў пашпарце запісана.

**– Сям'я ў вас вялікая?**

– Калі лічыць вялікай сям'ю, дзе трое дзяцей, то, напэўна, так. Дарэчы, у нас матрыярхат – тры дзяўчынкі. Я – самая малодшая. І, скажу вам, гэта проста цудоўна, калі разам гадуюцца тры дзяўчынкі, хаця не сказала б, што мне дасталіся самыя салодкія пернікі. Усё ў нас было роўна. Бацькі абсалютна аднолькава ставіліся да ўсіх.

**– Патока – вялікая вёска?**

– Зараз ужо невялікая, хаця раней там былі і школа, і клуб, і бібліятэка… Моладзь пачала з'язджаць у гарады, работы няма, усё пазакрывалася. Зараз у вёсцы ў асноўным сталыя людзі жывуць ды дзеці летам прыязджаюць.

**– Не паверу, што ў дзяцінстве вы марылі стаць цяжкаатлеткай…**

– Так, былі, як кажуць, больш прызямлёныя мары. Хацелася быць, напрыклад, прадаўцом ці кулінарам, але мары, што цяжкая атлетыка стане маёй прафесійнай працай, – гэтага і праўда не было. Аднак са спортам я сябравала і першапачаткова пачала займалася лёгкай атлетыкай. Але там па розных прычынах не склалася. Знайшла сябе ў іншым. Мама, як даведалася, што пачала штангай займацца, ледзь прытомнасць не згубіла. Але нічога, час лечыць… Ды і сёстры падтрымлівалі. Да слова, старэйшая таксама займалася далёка не жаночым відам спорту – гіравым.

**– Памятаеце, якую першую вагу паднялі?**

– Самы першы раз я падняла грыф ад штангі – ён важыў прыкладна 15 кілаграмаў. Цяжкавата было для дзяўчынкі, але справілася. Зараз, безумоўна, смешна ўспамінаць тыя вынікі, але ўсё прыходзіла паступова.

**– Уяўляю, якая была радасць у зборнай, калі вы заваявалі першы медаль…**

– Гэта і праўда было свята для ўсіх. Як быццам з зачараванага кола вырваліся. Я разлічвала на нейкі медаль, але, шчыра кажучы, канкрэтнае прызавое месца не планавала. Таму напярэдадні не было ніякага хвалявання, дзень правяла абсалютна спакойна. Да таго ж акліматызацыя на мне асабліва не сказалася. Арганізм кожнага спартсмена на розныя сітуацыі рэагуе па-свойму. Вось на чэмпіянаце свету ў Х'юстане тая ж акліматызацыя пайшла мне не на карысць, а тут неяк усё абышлося. Я вельмі рада, што падаравала краіне і балельшчыкам сярэбраны алімпійскі медаль!

**– Можа быць, зараз нейкім чынам вырашыцца ваша жыллёвае пытанне?**

– Хацелася б, бо ўжо каля шасці гадоў жыву ў Бабруйску ў інтэрнаце вучылішча алімпійскага рэзерву. Думаю, з часам усё вырашыцца.

**– Многія спартсменкі запланавалі вяселле пасля Алімпіяды, магчыма, і вы над гэтым пытаннем працуеце?**

– Мне ж пакуль усяго 21 год. Трэба, як кажуць, устаць на ногі, рыхтавацца да новых спаборніцтваў… Адно магу сказаць вам шчыра – прыхільнікаў пасля маёй перамогі дадалося. Хочуць пазнаёміцца ў сацыяльных сетках, пішуць, што я вельмі спадабалася. Але не веру ў такія прызнанні. Не ведаеш чалавека, не бачыш… Я не веру ў каханне па перапісцы.

**– Як у вёсцы сустракалі гераіню?**

– Там з гэтай нагоды нават невялікае "вяселле" арганізавалі. На вечарыну сабраліся родныя, блізкія – чалавек 20 назбіралася. Так што пела і танцавала ўся вёска.

**– Даша, не так даўно вы былі дэлегатам Усебеларускага народнага сходу. Як вам мерапрыемства?**

– Мне спадабалася. Мяне ад вучылішча алімпійскага рэзерву туды дэлегавалі.

**– Нешта планы на такіх сходах усё складаюць, а яны не выконваюцца.**

– Трэба працаваць – і ўсё будзе. Мая ж калісьці недасягальная мара пра алімпійскі медаль здзейснілася…

**Алесь СІВЫ.**

КАМЕНТАРЫЙ ТРЭНЕРА

## Міхаіл РАБІКОЎСКІ: «За Дашу трэнеры атрымаюць 45 тысяч долараў»



*Адзін з трэнераў сярэбранай прызёркі Алімпіяды распавёў пра сваю вучаніцу, асаблівасці жаночай цяжкай атлетыкі і прыгажосць у спорце.*

– Я працую з Дашай Навумавай 5 гадоў, і пра яе заўсёды можна было сказаць: перспектыўная, – *кажа Міхаіл Мікалаевіч.* – У чалавека вялізнае жаданне займацца спортам і нечага дасягнуць. Праўда, не адразу яна вызначылася, спачатку займалася штурханнем ядра. Затым ужо запрасілі ў цяжкую атлетыку, яна пагадзілася. І, думаю, не шкадуе.

**– З бацькамі не было праблем? Не кожная ж маці захоча, каб яе дачка "жалеза" тонамі цягала…**

– А на той час бацькі не ведалі, якім відам спорту займаецца Даша. Яна не казала ім. Пазней, праўда, прызналася, і першая рэакцыя, безумоўна, была не вельмі станоўчая. Але Дар'я выступіла на першых міжнародных стартах, паказала сябе, і маці стала зусім па-іншаму глядзець на тое, чым займаецца дачка. А сёння нават удзячна, што лёс склаўся такім чынам.

**– Даша – спартсменка з характарам?**

– Калі ў чалавека лідарскія якасці, то па-іншаму і быць не можа. Таму ўсялякага хапала ў нашых узаемаадносінах. Вялікія спартсмены не бываюць ідэальнымі. Тым больш калі гэта дзяўчына. Дзяўчаты заўсёды патрабуюць да сябе больш увагі.

**– Вы сказалі, што Дар'я займалася штурханнем ядра, але затым кінула. Не спадабалася?**

– Не падышла па росце. У Дашы – 1 метр 65 сантыметраў, а вы бачылі, які ў штурхальніц рост? Пад два метры! Таму перспектыў там не было ніякіх.

**– І ўсё ж такі цяжкая атлетыка – гэта, напэўна, больш мужчынскі від спорту.**

– Ведаеце, я сам быў адным з ініцыятараў развіцця жаночай цяжкай атлетыкі ў Беларусі і рады, што яна атрымала такое развіццё. Я пачынаў працаваць з дзяўчатамі яшчэ ў 1990 годзе, пры Саюзе. Не паверыце, але самі прыходзілі запісвацца ў секцыю.

**– Дзяўчаты ж павінны быць грацыёзнымі…**

– Адна з маіх першых вучаніц выступала ў суперцяжкай вагавай катэгорыі і мела вагу каля 90 кілаграмаў. Зараз у яе сям'я, двое дзетак, і пры росце 1 метр 75 сантыметраў яна важыць 58–60 кілаграмаў. Стройная, прыгожая! Таму сам від спорту не накладвае нейкі адмоўны адбітак на чалавека. Калі спартсменка выступае, безумоўна, неабходна падтрымліваць пэўны ўзровень мышцаў, але жыццё ў спорце – не бясконцае.

**– Прабачце, а на жаночай фізіялогіі цяжкая атлетыка не сказваецца?**

– Асабліва не сказваецца. І сем'і спартсменкі ствараюць, і дзетак здаровых нараджаюць... Часам, праўда, з'яўляюцца нейкія змены, але яны нязначныя: голас больш грубы можа стаць альбо нешта яшчэ. Але ўсё знікае, як толькі спартсменка перастае трэніравацца. Вось Даша ўжо амаль месяц да штангі не падыходзіць, ніхто нават не скажа, што яна займаецца цяжкай атлетыкай.

**– А як наконт фармакалогіі, без якой не абыходзяцца штангісты? Не шкодзіць здароўю 21-гадовай дзяўчыны?**

– А што, лепш піць ды паліць, чым займацца спортам? І што сёння ў нас "чыстае"? Вы якую-небудзь кілбасу альбо напіткі праверце. Што ўбачыце пасля лабараторнага даследавання? Табліцу Мендзялеева, якую мы штодня ўжываем! І ці вы ніколі не п'яце таблеткі? Яны што, карысныя? Таму ўсё дапушчальна, калі ў меру. Увогуле, фармакалогія дапамагае арганізму аднавіцца і пераносіць нагрузкі. А злоўжываць можна чым заўгодна. І не толькі ў спорце.

**– Сярэбраныя прызёры Алімпіяды атрымаюць грашовыя ўзнагароды ў памеры 75 тысяч долараў. А настаўнікам спартсмена нейкія бонусы прадугледжаны?**

– Дар'ю трэнірую я і Валерый Сізёнак, таму на дваіх мы павінны атрымаць 60 працэнтаў ад памеру прэміяльных Дашы. Кожнаму атрымліваецца, здаецца, па 22,5 тысячы долараў.

**– Дар'і – 21 год, спартыўная кар'ера толькі пачынаецца…**

– Мяркую, так, калі ўлічваць, што яе асноўнай саперніцы ў барацьбе за "серабро" іспанцы Лідзіі Валенцін Перас – 32. А наша вяслярка Каця Карстэн выступала на гэтай Алімпіядзе і ў свае 44 гады. Таму, калі здароўе дазваляе, можна выступаць і выступаць.

**– Але некаторыя маладыя людзі, якія ў такім узросце дасягаюць буйных поспехаў, не праходзяць элементарную праверку на "зорнасць". Прыклад цяжкаатлета Арамнава – таму пацвярджэнне…**

– У кожнага чалавека сваё выхаванне і свой характар. Я ўпэўнены, што "зорнасць" – гэта не пра Дашу.

**Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

ПО ВАШЕЙ ПРОСЬБЕ

*«Народная Воля» накануне каждого сезона публикует календарь чемпионата Беларуси по футболу. Уверен, среди ваших читателей немало хоккейных болельщиков, которые следят за выступлением минского «Динамо» в КХЛ. Не могли бы вы напечатать расписание матчей «зубров» в первенстве Континентальной хоккейной лиги?»*

**Петр КАРПОВИЧ, Минск.**

## С кем играют «зубры»?

Как известно, сезон уже начался, минское «Динамо» играет в конференции "Запад".

**Дивизион Боброва:** "Динамо" (Минск), "Динамо" (Рига), "Йокерит" (Финляндия), "Медвешчак" (Хорватия), СКА (Санкт-Петербург), "Слован" (Братислава, Словакия), "Спартак" (Москва).

**Дивизион Тарасова:** "Витязь" (Московская область), "Динамо" (Москва), "Локомотив" (Ярославль), "Северсталь" (Череповец), "Торпедо" (Нижний Новгород), ХК "Сочи", ЦСКА (Москва).





### Календарь матчей с участием минского "Динамо"

**13 сентября**
"Металлург" (Магнитогорск) – "Динамо" (Мн)
**15 сентября**
"Динамо" (Мн) – "Динамо" (Рига)
**17 сентября**
"Динамо" (Мн) – "Металлург" (Новокузнецк)
**19 сентября**
"Динамо" (Мн) – "Авангард" (Омск)
**21 сентября**
"Динамо" (Мн) – "Сибирь" (Новосибирск)
**24 сентября**
"Динамо" (М) – "Динамо" (Мн)
**26 сентября**
"АК Барс" (Казань) – "Динамо" (Мн)
**28 сентября**
"Лада" (Тольятти) – "Динамо" (Мн)
**30 сентября**
"Нефтехимик" (Нефтекамск) – "Динамо" (Мн)
**4 октября**
"Динамо" (Мн) – "Локомотив" (Ярославль)
**6 октября**
"Динамо" (Мн) – "Витязь"
**8 октября**
"Динамо" (Мн) – "Динамо" (М)
**10 октября**
СКА – "Динамо" (Мн)
**13 октября**
ЦСКА – "Динамо" (Мн)
**15 октября**
"Северсталь" – "Динамо" (Мн)
**17 октября**
"Сочи" – "Динамо" (Мн)
**19 октября**
"Динамо" (Мн) – "Спартак"
**21 октября**
"Динамо" (Мн) – "Торпедо"
**23 октября**
"Динамо" (Мн) – "Сочи"
**27 октября**
"Локомотив" – "Динамо" (Мн)
**30 октября**
"Витязь" – "Динамо" (Мн)
**1 ноября**
"Динамо" (Р) – "Динамо" (Мн)
**8 ноября**
"Динамо" (Мн) – "Адмирал" (Владивосток)
**10 ноября**
"Динамо" (Мн) – "Куньлунь Ред Стар" (Китай)
**12 ноября**
"Динамо" (Мн) – "Амур" (Хабаровск)
**15 ноября**
"Медвешчак" – "Динамо" (Мн)
**17 ноября**
"Витязь" – "Динамо" (Мн)
**19 ноября**
"Слован" – "Динамо" (Мн)
**22 ноября**
"Динамо" (Мн) – "Йокерит"
**24 ноября**
"Динамо" (Р) – "Динамо" (Мн)
**26 ноября**
"Торпедо" – "Динамо" (Мн)
**29 ноября**
"Динамо" (Мн) – "Трактор"
**2 декабря**
"Динамо" (Мн) – "Салават Юлаев"
**4 декабря**
"Динамо" (Мн) – "Металлург" (Мг)
**6 декабря**
"Динамо" (Мн) – "Слован"
**11 декабря**
"Динамо" (Мн) – "Медвешчак"
**19 декабря**
"Металлург" (Нк) – "Динамо" (Мн)
**21 декабря**
"Сибирь" – "Динамо" (Мн)
**23 декабря**
"Авангард" – "Динамо" (Мн)
**3 января**
"Динамо" (Мн) – СКА
**5 января**
"Динамо" (Мн) – "Северсталь"
**7 января**
"Динамо" (Мн) – ЦСКА
**12 января**
"Амур" – "Динамо" (Мн)
**14 января**
"Куньлунь" – "Динамо" (Мн)
**16 января**
"Адмирал" – "Динамо" (Мн)
**19 января**
"Динамо" (Мн) – "Динамо" (Р)
**24 января**
"Динамо" (Мн) – "Автомобилист"
**26 января**
"Динамо" (Мн) – "Югра"
**28 января**
"Динамо" (Мн) – "Барыс"
**30 января**
"Йокерит" – "Динамо" (Мн)
**1 февраля**
"Автомобилист" – "Динамо" (Мн)
**3 февраля**
"Барыс" – "Динамо" (Мн)
**5 февраля**
"Югра" – "Динамо" (Мн)
**7 февраля**
"Динамо" (Мн) – "Витязь"
**14 февраля**
"Динамо" (Мн) – "Лада"
**16 февраля**
"Динамо" (Мн) – "Нефтехимик"
**18 февраля**
"Динамо" (Мн) – "АК Барс"

ТРАГЕДЫЯ

## У Ратамцы на спаборніцтвах па конным спорце загінуў 21-гадовы спартсмен

*Некалькі дзён таму пад Мінскам загінуў расійскі спартсмен **Мікіта Сатскоў.** Трагедыя адбылася падчас міжнароднага турніру па трохбор'і. Інфармацыю пацвердзілі ў Федэрацыі коннага спорту Санкт-Пецярбурга паведамляе diamond-horse.com.*

21-гадовы майстар коннага спорту ўпаў на трасе палявых выпрабаванняў. Ён атрымаў траўму, не сумяшчальную з жыццём. Падзенне спартсмена адбылося на перадапошнім бар'еры.

На месцы спаборніцтваў дзяжурылі некалькі брыгад урачоў, медыкі рабілі ўсё магчымае, аднак былі не ў сілах дапамагчы.

Сведкам таго, што здарылася, стала маці спартсмена і яго трэнер **Ірына Вяселіна.**

Беларуская федэрацыя коннага спорту аказвае ўсю пасільную дапамогу сям'і загінуўшага спартсмена. Як паведаміла намеснік старшыні Федэрацыі **Наталля Юранава**, у Мінск ужо прыбылі родныя загінуўшага – бацька і яго сястра. Па факце гібелі расійскага спартсмена вядуцца следчыя мерапрыемствы

Нагадаем, што на базе Рэспубліканскага цэнтра алімпійскай падрыхтоўкі коннага спорту і конегадоўлі ў Ратамцы завяршыліся кваліфікацыйныя міжнародныя спаборніцтвы і чэмпіянат Беларусі па трохбор'і ўзроўню складанасці адна, дзве і тры зоркі.

Мікіта Сатскоў выступаў у спаборніцтвах па трохбор'і з 2008 года. Ён шматразовы пераможца расійскіх і міжнародных спаборніцтваў.



ХОЗЯЙКЕ НА ЗАМЕТКУ





▪ Рыба не развалится на куски и приобретет золотистую корочку, если за 10–15 минут до жарки ее вытереть полотенцем и тут же посолить.

▪ Несколько свежих лисичек, добавленных в любой суп, сделают его вкуснее. Грибы в блюдах тем вкуснее, чем мельче они порезаны.

▪ Натертый сырой картофель сразу же размешайте с небольшим количеством молока, иначе он посинеет.

▪ Старый картофель станет вкуснее, если при варке добавить ложечку уксуса, 2–3 зубчика чеснока и лавровый лист либо сварить его в бульоне. Чем более старый картофель, тем больше требуется воды.

▪ Картофельное пюре лучше взбивать вручную. Взбитое в миксере становится пышным, зато быстро теряет вкус.

▪ Дрожжевое тесто будет мягким и воздушным, если в него добавить остывший вареный картофель, натертый на мелкой терке.

▪ Сливочное масло при жарке не темнеет, если раскаленную сковороду предварительно смазать растительным маслом.

▪ Не оставляйте надолго свежие грибы, в них появляются опасные для здоровья вещества, сразу же переберите и начинайте готовить. В крайнем случае сложите их в эмалированную посуду и, не накрывая крышкой, поставьте в холодильник, но не больше чем на день-полтора.



▪ При варке сырые грибы плавают, сваренные оседают на дно.

▪ При очистке свежих грибов отрезайте только нижнюю, загрязненную часть ножки. У маслят и сыроежек снимайте кожицу со шляпок.

▪ Сухие грибы храните в закрытой посуде, иначе улетучивается аромат.



### Яблочный хрен

Антоновские яблоки очистить и натереть. Добавить яблочного уксуса (не более 2–3 ч. ложек), сахар. Ввести полученную массу в свежий тертый хрен. Все соотношения подбираются произвольно, в зависимости от желаемой остроты приправы. Обычно же она получается мягкой, так как тертый хрен и яблочную массу используют в равных пропорциях.



Адрас рэдакцыі: 220030, Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.
nvonlineinfo@gmail.com
http://www.nv-online.info
Падпісныя індэксы:
63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,
632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.

Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ

У сувязі з адсутнасцю магчымасці рэдакцыя матэрыялы не рэцэнзуе і не вяртае, права ўступлення ў перапіску пакідае за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 12.09.2016 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 25 025 экз. Заказ № 3542

9 772071 964000 16071